*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 4 (441) 26 СТУДЗЕНЯ 2000 г.

**Спадару Клоду Рабінэ кіраўніку Беларускай Праграмы Радыё Ватыкану Proqramma Bielorusso Radio Vaticana 00120 Citta del Vaticano**

**Вельмішаноўны айцец Клод Рабінэ!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Вас ды Вашых супрацоўнікаў з 50-мі ўгодкамі ад заснавання Беларускай праграмы Радыё Ватыкану. Перадачы Радыё Ватыкану для Беларусі ёсць вельмі важкаю крыніцаю рэлігійных ведаў. Таксама дзякуючы менавіта Вашай хвалі штодня на ўвесь свет чутно нашае роднае слова, што лучыць нас з Сусветнаю Царквою ды яскрава сведчыць пра найвышэйшае прызнанне мовы беларускага народу.

З нагоды юбілею Таварыства шчыра зычыць калектыву Беларускай Праграмы Радыё Ватыкану поспехаў у той высокай місіі, што наканаваная Вам лёсам. З годнасцю трымайцеся традыцыяў такіх слынных сваіх папярэднікаў як Пётра Татарыновіч, Леў Гарошка ды Роберт Тамушанскі.

Няхай бласлаўляе Вас Айцец Нябесны ў справе духоўнае асветы нашага народу!

***З вялікай павагаю***
***Старшыня ГА ТБМ імя Ф.Скарыны Алег Трусаў.***

# Рэйтынг стагоддзя

На пачатку лістапада газета "Звязда" звярнулася да сваіх чытачоў з прапановай скласці рэйтынг адыходзячага стагоддзя па 12-ці намінацыях. За няпоўныя два месяцы рэдакцыя атрымала 3060 запоўненых анкет. Праведзены вынікі "Беларускага тузіна", з якімі "Звязда" падрабязна знаёміць сваіх чытачоў у першым нумары газеты за 2000 год.

Нам падалося неабходным давесці праз "Наша слова" вынікі анкетавання па дзвюх намінацыях – "Кніга", "Пісьменнік". Тытул "Кнігі стагоддзя" атрымала "Новая зямля" Якуба Коласа. На другім месцы – "Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча, трэцяе месца - за "Палескай хронікай" Івана Мележа.

Згодна з чытацкім рэйтынгам "Звязды" пісьменнікам стагоддзя названы Васіль Быкаў. З гэтай нагоды Рыгор Барадулін адзначыў наступнае: "Я думаю, што гэтае ўсенароднае прызнанне, якое Быкаў даўно набыў, пацверджана. Народ лічыць яго вялікім сынам – і гэта вельмі прыемна. Над гэтым трэба было б задумацца і тым уладам, якія часам робяць выгляд, што не заўважаюць Васіля Быкава, хаця і не заўважыць яго немагчыма".

Дарэчы, некалькі чытачоў вылучылі Васіля Быкава ў асобную намінацыю – "Сумленне стагоддзя".

Другое месца аддадзена Уладзіміру Караткевічу, трэці радок ў рэйтынгу занялі Янка Купала, Якуб Колас, Іван Шамякін.

Журналісты "Звязды" мяркуюць правесці падобнае анкетаванне і ў наступным годзе.

*Ірына Ляксеева.*

МІНСКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ  МИНСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

31.12.99г. № 203-70/11231 На № 572 от 25.11.99г.

***Старшыні Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" Трусаву А.А.***

Паважаны Алег Анатольевіч!

Праграмай перспектыўнага развіцця музейнай справы ў Мінскай вобласці, зацверджанай аблвыканкомам 30 снежня 1999 года, прадугледжваецца адкрыццё ў г.п. Радашковічы мемарыяльнага музея Браніслава Тарашкевіча. Улічваючы, што пакуль не вырашана пытанне адсялення жыхароў дома, у якім з 1923 па 1931 г.г. жыў наш знакаміты зямляк, вырашана да яго юбілею ў будынку вытворчай майстэрні былой сярэдняй школы №2 падрыхтаваць стацыянарную выстаўку з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

***Намеснік старшыні выканкама С.С. Паўлюковіч.***

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь
Стражаву В.І.

студэнтаў Магілёўскага Дзяржаўнага Універсытэту імя А.А. Куляшова, Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута,
выкладчыкаў і настаўнікаў навучальных установаў г. Магілёва

копія: Начальніку ўпраўлення адукацыі магілёўскага аблвыканкаму

Паважаны Васіль Іванавіч!

Мы, студэнты Магілёўскага Дзяржаўнага Універсітэта імя А.А. Куляшова, Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута, выкладчыкі й настаўнікі навучальных установаў г. Магілёва дасылаючы Вам гэты ліст, вельмі спадзяемся пачуць Вашую ацэнку выказваньням галоўнага інспэктара ўпраўленьня адукацыі Магілёўскага аблвыканкаму – сп. Л.С. Кірэева на тэму перавода выкладання ў школах на беларускую мову, якія знайшлі адлюстра-ваньне на старонках гарадской газеты "Дэ-Факта" ад 19 лістапада 1999 г.

Тэкст гэты мае наступны зьмест:

***"Я однозначно с этим не согласен. Не скажу за всех родителей, но большинство из родителей предпочитают не отдавать своих детей в классы с углубленным изучением белорусского языка. В Белоруссии всегда было двуязычие, причём, белорусский язык был по своей значимости далеко не самым главным. И все это знают.***

***Нащ, можно сказать, национальный язык – русский, а людей, говорящих на национальном языке, - очень мало. Для большинства жителей нашей республики он ассоциируется с иностранным языком. И поэтому, я могу сказать, что даже через сто лет белорусский язык не сможет занять место русского языка."***

Такія адносіны да роднае мовы работніка адукацыі проста ашаломліваюць і шакіруюць. Складаецца такое ўражаньне, што гэта выпадковы чалавек у сфэры народнае адукацыі. Такімі выказваньнямі сп. Кірэеў дыскрэдытуе ганаровае званне пэдагога. Гэткіх людзей нельга дапускаць да кволых дзіцячых душ, каб не атрымаць потым такіх жа як ён нацыянальных нігілістаў. Школа павінна выхоўваць павагу да культуры свайго народа, да роднае мовы, а не наадварот.

Мова народа – гэта ягоны грунт, ягоная сьвятыня. Не зьяўляецца выключэньнем і беларускі народ, які цягам стагодзьдзяў уславіў сваю мову, пранёс яе праз нягоды й пакуты, захаваў і перадаў нашчадкам. І зусім не для таго, каб ад яе пагардліва адмаўляліся, як ад нейкае непатрэб-шчыны, што зараз якраз і робіцца ў нашай краіне.

Беларуская мова выкідаецца на задворкі грамадзкага жыцьця, зневажаецца і калечыцца агрэсіўным невуцтвам дэнацыяналізаванага чынавенства, якое дэманструе і сп. Кірэеў.

Мы лічым такое становішча недапушчальным ў краіне, дзе, згодна з апошнім перапісам, 37% насельніцтва размаўляе па-беларуску, і зьвяртаемся да Вас, сп. міністр, з заклікам абараніць родную мову ад такіх чыноўнікаў, як Л.С.Кірэеў і актывізаваць беларусізацыю школаў нашае краіны.

Ад Вас, як ад міністра, у вялікай ступені залежыць будучыня нацыянальнае адукацыі. Чакаем Вашага афіцыйнага адказу, і спадзяемся, што сп. Кірэеў Л.С. адкажа за свае абразьлівыя словы, кінутыя ў бок нацыянальнае мовы.

З павагай.

***Студэнты МДУ імя А.Куляшова, ММІ, магілёўскія настаўнікі і выкладчыкі.***

# Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Беларусы, якія не гавораць па-беларуску, толькі думаюць, мяркуюць, што яны кажуць нешта на іншай мове. па-сапраўднаму ж яны ні на якой мове не гавораць. У сучасных слоўніках рускіх, як і польскіх, у сярэднім па 100 тысяч слоў.

Скуль іх возьме беларус, які не гаворыць па-беларуску? Ягоная небеларуская мова, нават калі яна нарматыўнавя, абсягам не выходзіць за фармат газеты. Яе можна назваць моваю?

Жывая беларуская мова анідзе не падзенецца, хоць у яе, у параўнанні з былымі часамі, з'явіліся два сапраўды магутныя ворагі: усеагульная сярэдняя адукацыя і сродкі масавай інфармацыі, найперш электроннеыя. Так што праблема ёсць, але ўсё ж яна не такая грозная, як вайна на мяжы. Заедзьма ў любую вёску: адукацыя адукацыяй, тэлевізар тэлевізарам, а гавораць па-свойску, як на душу кладзецца. Мова і ёсць душа, якая важыць столькі, колькі важыць слова.

**Уладзімір Някляеў**
**ЛіМ 28.11.89г.**

*Трэба бараніць не толькі людзей ад рэпрэсій існуючага рэжыму – трэба бараніць й нашу мову. На самой справе, праблема мовы, як праблема ўладароў і нашай дзяржавы – самая балючая і невырашаная на гэты момант. Вакол яе разгортваецца палітычная барацьба, супрацьстаянне і падзея грамадства. Знікаюць беларускія школкі і класы, родная мова не выкарыстоўваецца ні выкладчыкамі, ні студэнтамі, ні навучэнцамі школ і ПТВ, за рэдкімі выключэннямі.*

***Юлія Жукава***
***"Моладзь за волю" № 3 верасень 1999 г.***

8 верасня я быў на свяце Беларускай вайсковай славы. Там я пазнаёміўся з сям'ёй якая размаўляла на прыгожай беларускай мове. Я пазайздросціў хлопчыку, што тата і мама навучылі яго роднай мове і заўсёды на ей размаўляюць.

**Аляксандр Лапцік 7 клас**
**"Народная воля" 15.10.99г.**

*Становішча з навучаннем на беларускай мове ў школе, што склалася ў нашай краіне, не вызначаецца дбаннем пра адраджэнне роднай культуры. Вядома: штогод колькасць беларускіх класаў скарачаюцца, усё менш і менш дзяцей атрымліваюць адукацыю на мове Скарыны і Багушэвіча. Адна справа, калі выбар робіцца бацькамі і дзецьмі, зусім іншае – калі рашэнне прымаецца за іх і супраць іхняй волі.*

***Марыя Шахоўцава***
***"Народная воля" 7.10.99г.***

Газета "Звязда" змясціла здымак не па гадах журботнага, сумнага хлапчука, які абедзвюма рукамі ашчарэпіў падручнік "Беларуская мова". А подпіс пад здымкам такі: "Трымайся і трымай мацней!". Мы, вядома ж, разумеем усю горыч, боль і абсурднасць сітуацыі са становішчам беларускай мовы ў незалежнай беларускай дзяржаве. Ну, а як вытлумачыць такі подпіс каму-небудзь з нашых суседзяў і несуседзяў, немцу, напрыклад, ці шведу?

**Красамоўства тыдня**
**ЛіМ № 40**

*Я не ведаю, ці трэба на дадзеным этапе яднання з Расіяй... Я адзінае толькі перажываю – за мову, за культуру, за ўсё гэта. Для мяне гэта галоўнае. Сённяшняе становішча з роднай мовай – гэта проста шок. Шок! Але я мяркую, што ўрэшце рэшт, дужа наша багатая культура і цудоўная мова, і яны не памруць...*

***Леанід Барткевіч***
***"Звязда" 4.12.99г.***



№ 4 (441) 26 СТУДЗЕНЯ 2000 г. наша слова

Леанід Лыч

# Змаганне за беларускую мову – змаганне за выратаванне беларускага народа

Нацыянальная палітыка Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, як і аднаго з яе адданых структурных падраздзяленняў – Камуністычнай партыі Беларусі, не пакінула беларускаму народу аніякіх шанцаў на выжыванне. Яго найвялікшая каштоўнасць – родная мова, да стварэння, развіцця ды ўдасканалення якое спрычыніліся дзясяткі пакаленняў людзей, дзесьці на мяжы 50 - 60 сталася непатрэбнаю ў грамадскіх стасунках. І адбылася гэтая трагедыя не з прычыны нібыта добраахвотнага адрачэння беларусаў ад матчынай мовы, не з прычыны нібыта яе няздольнасці абслугоўваць самыя адказныя структуры дзяржаўнай ды партыйнай ўлады, дакладныя ды грамадазнаўчыя навукі, прэстыжныя сферы прафесійнай культуры, вышэйшыя навучальныя ўстановы, а ў выніку свядомай палітыкі Крамля, якую з зайздроснаю апантанасцю праводзілі на нашае зямлі мясцовыя партыйныя ды савецкія органы. Усялякія спробы нацыянальнай эліты беларускага народа звярнуць увагу гэтых органаў на гібельны стан роднай мовы і культуры не браліся пад увагу, а шчырых абаронцаў заносілі ў спіс адпетых нацыяналістаў. Эпізадычныя візіты вярхоў пісьменніцкай арганізацыі ў ЦК КПБ з просьбамі спыніць гвалтоўны ўціск беларускай мовы ў найлепшым выпадку сканчаліся нязначнымі саступкамі з боку ўладаў, што ніякім чынам не спрыяла ў паляпшэнні моўнай сітуацыі і ў рэшце рэшт павінна было прывесці да поўнага знікнення беларускай мовы.

Такім чынам працэс вымірання беларускага этнасу няўмольна працягваўся. І выратаваць ад гэтаё трагедыі здолеў бы хіба што сам Бог альбо нейкі цуд. Аднак Бог не прыйшоў на дапамогу беларусам. Мо таму, што на той час на нашай зямлі ледзь не суцэльна панаваў атэізм. А вось цуд быццам бы з'явіўся. Ім стала гарбачоўская "перабудова". Спробы генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова і яго каманды здзейсніць касметычны рамонт спарахнелага арганізму – Савецкага Саюза, што скончыліся зусім натуральным распадам апошняга, выклікалі неабходнасць удумлівага, крытычнага пераасэнсавання ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая на працягу шэрагу дзесяцігоддзяў падавалася найвялікшым дасягненнем тэарэтычнай думкі чалавецтва і не падлягала аніякай крытыцы. Зараз у ёй, як і ўва ўсім марксісцка-ленінскім вучэнні раптам заўважылі шмат таго, што ніякім чынам не мусіла спрыяць усталяванню ў поліэтнічным СССР гармоніі ў міжнацыянальных стасунках, а, наадварот, самым сур'ёзным чынам дэфармавала яе. І самае важнае, што выкрывальнікам гэтых хібаў стаў не знаны навуковец якоесь савецкае нацыі ці народнасці, знявечанай культурна-моўнай асіміляцыяй, а сам партыйны генсек Гарбачоў, што надало смеласці палітыкам ды інтэлектуалам у вызначэнні шляхоў выратавання сваіх народаў ад этнічнае дэградацыі.

Такія адважныя асобы знайшліся і ў асяродку самага зрусіканага з усіх савецкіх народаў – беларускага. І нямала: ажно 28 змагароў! Абмінуўшы рэспубліканскі ўзровень, яны 15 снежня 1986 году даслалі непасрэдна на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова ліст, у якім падрабязна выклалі прычыны трагічнага стану беларускае мовы, дакладна вызначылі шляхі яе выратавання і прасілі ўздзеяння на беларускія партыйныя органы, каб тыя не стаялі ў баку ад развязання гэтай лёсавызначальнай праблемы. Сярод падпісантаў былі і гэткія слынныя ў Беларусі людзі як майстры гожага пісьменства Вячаслаў Адамчык, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Пімен Панчанка, а таксама мастак Леанід Шчамалёў, акторка Стафанія Станюта, спявачка Валянціна Пархоменка. Шчыра ганаруся, што пад гэтым лістом стаіць і мой подпіс. Дзеля праўды мушу зазначыць, што яго не пажадалі альбо спужаліся падпісаць некаторыя асобы, што ў адпаведнасці са сваім прафесійным статусам елі хлеб дый да хлеба менавіта з беларускай мовы.

Брыгада ЦК КПСС, што завітала ў Беларусь дзеля праверкі на адпаведнасць зместу ліста рэальнай сітуацыі, зазначыла ўзнятую праблему істотнаю ды параіла мясцовым партыйным структурам неадкладна на сур'ёзным узроўні распачаць ліквідацыю недахопаў у гэтай найбольш значнай сферы нацыянальнай палітыкі. Хоць і без усялякага жадання, бо тое супярэчыла характару ўсёй папярэдняй палітыкі ЦК КПБ, але яго ідэалагічны апарат усё ж пачаў некаторую дзейнасць у гэтым кірунку. Сродкам масавай інфармацыі дазволілі распавядаць не толькі пра прыстаўкі ды суфіксы, паходжанне-вымаўленне таго ці іншага слова, але і пра месца беларускае мовы, што яна павінна займаць у грамадскім жыцці рэспублікі.

Вялікім дасягненнем нацыянальна-свядомых колаў беларускае інтэлігенцыі з'явілася вынайсце галоўнага, што дапамагло б не толькі спыніць далейшае знішчэнне прыроднага патэнцыялу беларускай нацыі, але і забяспечыць ёй прыстойнае, безасіміляцыйнае этнакультурнае развіццё. У якасці гэтага была вызначаная адукацыя, што ўжо дзесяцігоддзямі ўзгадоўвала з беларусаў носьбітаў чужой, рускай культуры і мовы. Звярнуць рускамоўную сістэму адукацыі Беларусі хоць на 15-20 градусаў у нацыянальны бок сталася надзвычай складанай справай, бо прыхільнікі такой адукацыі цудоўна разумелі, што гэта моцна паспрыяе фармаванню нацыянальнай свядомасці беларусаў, якая на той час знаходзілася на мяжы поўнае дэградацыі, ды стане пачаткам спынення палітыкі русіфікацыі. І ўсё ж пад націскам не адарванай ад родных каранёў інтэлігенцыі, перадусім, пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў-грамадазнаўцаў ідэалагічныя структуры ЦК КПБ, рэспубліканскія ўлады ды Міністэрства адукацыі пагадзіліся перагледзець моўную палітыку ў сферы адукацыі і даць хоць крыху месца ў ёй беларускаму слову.

З сур'ёнай крытыкай такой палітыкі – ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі – выступіў у ліпені 1987 году на партыйным сходзе Саюза пісьменнікаў Беларусі сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Валеры Пячэннікаў: "У 50 - 60-ых гадох узмацнілася бескантрольнае вызваленне вучняў ад вывучэння беларускай мовы, што прывяло да скарачэння беларускамоўных школаў. Органы народнае асветы своечасова не заўважылі і па сутнасці пусцілі на самацёк гэты працэс. Таму галоўныя намаганні сёння трэба сканцэнтраваць перш за ўсё на тым, як выправіць становішча, а не на пошуку вінаватых." (*Звязда* ад 7.07.1987г.)

Такая справядлівая ацэнка трагічных вынікаў заганнае практыкі вызначэння бацькамі мовы навучання сваіх дзетак ці ўвогуле вызваленне іх ад вывучэння беларускае мовы ў варунках поўнамаштабнай русіфікацыі беларусага народа, свядомага вынішчэння беларускае мовы практычна з усіх сфераў грамадскага жыцця, вышэйшае ды сярэдняе спецыянай школы надала ўпэўненасці ўсім, хто жадаў далучыцца да чарговай хвалі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Яны абрынуліся з крытыкай народнай адукацыі, бо справядліва бачылі менавіта ў ёй галоўную прычыну дэнацыяналізацыі не аднаго пакалення беларусаў. Такім чынам ЦК КПБ нічога не засталося, як прыняць з гэтае нагоды ў кастрычніку 1988 году афіцыйны дакумент з назовам "Асноўныя мерапрыемствы па далейшым развіцці народнай адукацыі БССР". Гэтым разам вышэйшы партыйны орган адкрыта паведаміў пра тэрміновую неабходнасць паступовага ўжытку беларускай мовы ўва ўсіх тыпах навучальных установаў.

На такі зусім нязвыклы для сябе крок ЦК КПБ вымушаны быў пайсці не толькі пад магутным націскам уплывовых адраджэнскіх сілаў Беларусі. Гэтага ад партыйных уладаў вымагалі рашэнні XIX Усесаюзнай партыйнай Канферэнцыі, што мела месца ў Маскве ў чэрвені 1988 года. ЦК КПБ не мог ігнараваць справядлівае ды катэгарычнае патрабаванне Канферэнцыі да рэспубліканскіх партыйных арганізацыяў: "Выяўляць больш клопату пра актыўнае функцыянаванне нацыянальных моваў у розных сферах дзяржаўнага, грамадскага ды культурнага жыцця. Заахвочваць вывучэнне мовы народа, імя якога мае рэспубліка, усімі грамадзянамі, што жывуць на яе тэрыторыі, у тым ліку іншых нацыянальнасцяў, у першую чаргу, дзецьмі ды моладдзю" (*Звязда ад* 5.07.1988г.).

Як і трэба было чакаць, станоўчыя змены партыйнай палітыкі Крамля ў сферы міжнацыянальных дачыненняў не знайшлі неабходнага разумення ды актыўнай падтрымкі ў беларускіх органах народнае адукацыі, шматлікіх кіраўнікоў навучальных установаў, якія апошнімі дзесяцігоддзямі набылі багаты досвед русіфікацыі беларускай нацыі, вельмі ўпэўнена адчувалі сябе ў рускай культурна-моўнай плыні і не надта жадалі спрычыніцца да стварэння на Беларусі нацыянальнай сістэмы адукацыі. На яе карэнную перабудову яны не ішлі яшчэ і таму, што не спадзяваліся на які-небудзь кардынальны перагляд, а тым больш радыкальныя практычныя дзеянні партыйных органаў у культурна-моўным жыцці. Для такіх меркаванняў даў добрыя падставы першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў сваім выступам у чэрвені 1989 года на пленуме ЦК КПБ: "Зараз шмат дыскусіяў аб дзяржаўным статусе нацыянальных моваў. Вядуцца яны і ў нашай рэспубліцы... На нашую думку, узняць прэстыжнасць роднай мовы і культуры дырэктыўным, валявым умяшаннем у гэтую сферу немагчыма" (*Звязда*. 23.06.1989г.).

З гэтых словаў вынікала, што ні дзяржава, ні партыя ніколі не пойдуць на прыняцце якога-небудзь рашэння аб пераводзе той ці іншай навучальнай установы з рускай мовы на беларускую, а таксама на замену рускай мовы беларускаю ў службовым справаводстве і г.д. Не раз заяўлялася афіцыйнымі асобамі: вось калі абсалютная бальшыня бацькоў, школьнікаў, навучэнцаў сярэдніх спецыяльных ды студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў пажадаюць перайсці з рускай мовы на беларускую, тады можа і дзяржава, і партыя пагодзяцца з прыняццем пэўнай дырэктывы. Словам, партыйныя і савецкія органы замест свядомага рэгулявання міжнацыянальнымі дачыненнямі на Беларусі ў мэтах хутчэйшага аднаўлення законных правоў яе карэннага насельніцтва на цывілізаванае культурна-моўнае развіццё перадавалі ўсё гэта на вырашэнне дашчэнту дэнацыяналізаванага натоўпу, якога ўжо даўно адбілі ад роднае мовы і адміністратыўна-таталітарнымі метадамі навязалі мову суседняга народа.

Бесперспектыўнасць, шкоднасць такой моўнай палітыкі не засталіся незаўважанымі інтэлектуальным, нацыянальна-свядомым ядром беларускага народа. Супрацьстаянне ёй невымерна вырасла пасля заснавання Беларускага народнага фронту "Адраджэньне". Яго ўстаноўчы з'езд адбыўся 24-25 чэрвеня 1989 года ў старажытным беларускім палітычным і культурным цэнтры - Вільні. Старшынём Сойму БНФ быў абраны ўжо добра вядомы на той час грамадскі дзяяч ды навуковец Зянон Пазняк. Ухваленая на з'ездзе Праграма руху "патрабавала надаць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай мовы рэспублікі і выступала супраць агульнанароднага нацыянальна-рускага дзвюхмоўя. БНФ выступіў з прапановамі стварыць Таварыства беларускай мовы, міжнароднае беларускае таварыства" (*Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*. Т.1.1993.С.441).

Актыўную працу па стварэнні Таварыства беларускай мовы вялі і партыйныя органы. У вырашэнні гэтага пытання яны значна адставалі ад іншых саюзных рэспублік і асабліва прыбалтыйскіх, дзе такія таварыствы паспелі ўжо шмат чаго зрабіць у павышэнні сацыяльнай ролі родных моваў іх карэннага насельніцтва. Днём народзінаў Таварыства беларускай мовы, якому было дадзенае імя слыннага нашага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны, стаў дзень 27 чэрвеня 1989 года. Першапачаткова Таварыства ўзначаліў добра вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі паэт, літаратуразнавец, заслужаны дзяяч навукі БССР Ніл Гілевіч. Удзельнікі Устаноўчага сходу ў сваім Звароце заклікалі грамадзянаў Беларускай ССР, беларусаў замежжа, усіх прыхільнікаў роднага слова, карэнных жыхароў " з разуменнем і адчуваннем гістарычнай адказнасці паставіцца да катастрафічнага становішча беларускай мовы на Беларусі - падтрымаць шматлікія прапановы аб наданні ёй дзяржаўнага статусу ў рэспубліцы" (*Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*. Мн., 1989, С.1,2).

А такіх прапаноў і сапраўды было багата. Шмат іх трапіла і на старонкі перыядычнага друку, што надало абмеркаванню моўнага пытання на Беларусі агульнанародны характар. Глыбока і ўсебакова абмяркоўвалася яно ў калектывах, характар дзейнасці якіх у той ці іншай ступені быў звязаны з духоўным жыццём народа. І вельмі паказальна, што ўсё большая колькасць людзей прыходзіла да правільнай думкі аб неабходнасці надання статусу адзінай дзяржаўнай мовы толькі беларускай, як мове карэннага насельніцтва рэспублікі. Так гэтае пытанне і на той час, і на сёння вырашана ўва ўсіх цывілізаваных краінах, што не выклікае аніякіх пярэчанняў, незадаволенасці з боку іх нацыянальных меншыняў.

Стаць многім свядомымі, перакананымі прыхільнікамі беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы ў вырашальнай ступені паспрыяла і пазіцыя па дадзеным пытанні самога ЦК КПСС. У прынятай на яго вераснёўскім пленуме 1989 года Платформе КПСС "Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах" было запісана: "Мэтазгоднасць прызнання дзяржаўнасці мовы нацыянальнасці, якая дала назву саюзнай або аўтаномнай рэспубліцы - кампетэнцыя саміх рэспублік. Статус дзяржаўнай мовы не павінен весці да моўнае дыскрымінацыі. Ён азначае пашырэнне яе (мовы карэннага насельніцтва саюзнай і аўтаномнай рэспублікі. - *Л.Л.*) грамадскіх і культурных функцыяў". (*Звязда*, 24.09.1989г.).





Леанід Лыч

# Змаганне за беларускую мову – змаганне за выратаванне беларускага народа

Як вынікае з прыведзенай цытаты, у ёй ішла прынцыповая гаворка пра мэтазгоднасць надання статусу адзінай дзяржаўнай мовы толькі мове тытульнага народа саюзнай альбо аўтаномнай рэспублікі. Дзяржаўнае двух ці шматмоўе цалкам выключалася. І гэта вельмі справядліва, бо нельга дапускаць, каб на гістарычнай тэрыторыі таго ці іншага этнасу такім статусам надзялялася і іншая мова, бо гэта непазбежна вядзе да ўзнікнення суперніцтва паміж імі, якое не абавязкова заканчваецца перамогай мовы дзяржаўнай нацыі. Тут многае залежыць ад таго, якія пазіцыі ў яе жыцці займае чужая мова і якія сілы стаяць за яе спіной. Не сакрэт, што ў выніку свядомай палітыкі ідэалагічных службаў бальшавіцкай партыі ў грамадскім жыцці многіх саюзных рэспублік, і перадусім у БССР, руская мова займала пануючае становішча, таму пры наданні і ёй статусу дзяржаўнай, гарантыі выжывання, росквіту нацыянальных моваў гэтых рэспублік былі б зведзеныя да нуля. Асабліва ніякіх перспектыў у такіх варунках не заставалася б у беларускай мовы, у якой на той час мелася надта мала носьбітаў і якая ў выніку рэформы 1933 года была вельмі набліжаная ў фанетычным, марфалагічным ды сінтаксічным значэннях, а таксама паводле сваёй лексікі да рускай мовы. А як сведчыць гістарычны сусветны досвед, у выніку суперніцтва дзвюх блізкароднасных моваў адна з іх намнога хутчэй адыходзіць у нябыт, чым у выпадку, калі такое суперніцтва датычыць моваў, далёкіх адна ад адной паводле сваіх асноўных характарыстык. Для носьбітаў, прыхільнікаў беларускай мовы было вялікай карысцю, што ў згаданай вышэй платформе КПСС "Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах" было прызнана мэтазгодным у кожнай з саюзных ці аўтаномных рэспублік надаваць статус дзяржаўнай толькі адной іх нацыянальнай мове. І не болей! Бо калі б у нашай рэспубліцы такі статус надаць яшчэ і рускай мове, дык, улічваючы яе рэальнае пануючае становішча ўва ўсіх сферах дзейнасці людзей і зносінах апошніх паміж сабой, беларускай мове, у якой архітэктары палітыкі русіфікацыі адабралі ледзь не ўсіх носьбітаў, проста не магчыма было б узняцца з каленяў. Яна няўхільна ішла б да свайго канчатковага заняпаду пры аднačасовым далейшым росквіце на нашай зямлі роднай мовы суседняга нам народа - рускай.

З улікам гэтага факту і распачала сваю дзейнасць створаная ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета БССР ад 29 лістапада 1989 года Камісія па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статусу беларускай, рускай і іншых моваў. Кіравала ёю намеснік Старшыні Савета Міністраў Ніна Мазай. У склад Камісіі ўвайшлі людзі самых розных прафесій і адукацыі, нацыянальнай прыналежнасці: старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, пісьменнік Ніл Гілевіч (узначальваў рабочую групу), буйны вучоны-мовазнавец, акадэмік Акадэміі навук БССР Мікалай Бірыла, міністар народнай адукацыі БССР Міхаіл Дзямчук, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР, член-карэспандэнт АН БССР Аляксандар Падлужны, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, прафесар Міхаіл Яўневіч, загадчык кафедры тэорыі дзяржавы і права Белдзяржуніверсітэта, доктар юрыдычных навук Аляксандар Абрамовіч, пісьменнік Барыс Сачанка, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Юрый Смірноў, дацэнт кафедры сацыялістычнай культуры Менскай вышэйшай партыйнай школы Вячаслаў Рагойша, дацэнт Менскага дзяржпедінстытута Пётр Садоўскі, сакратар Менскага гаркама КПБ Пётр Краўчанка, старшыня Мазырскага гарвыканкама Іван Кенік, старшыня калгаса "Перамога" Берастаўіцкага раёна Гарадзенскай вобласці Аляксандар Маханько, намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай працы сярэдняй школы № 3 горада Слоніма Галіна Масько, рабочы Менскага вытворчага аб'яднання імя Леніна Генадзь Капанік.

Камісія працавала ў напружаным рытме і вельмі плённа. Знаходзіць шляхі правільнага вырашэння надзвычай складанага моўнага пытання на Беларусі аблягчала тое, што шэраг саюзных рэспублік ужо паспеў на той час распрацаваць законы аб мовах і таму мелася магчымасць штосьці запазычыць з іх досведу. У максімальнай ступені Камісія выкарыстала слушныя палажэнні з альтэрнатыўных праектаў аб мовах, што даслалі ёй з Акадэміі навук БССР, Белдзяржуніверсітэта ды іншых установаў. Глыбока і ўсебакова вывучаліся станоўчая практыка рэгулявання моўнымі працэсамі ў перыяд міжваеннай беларусізацыі, дзякуючы якой, як вядома, у гранічна кароткі тэрмін удалося фактычна забяспечыць беларускай мове статус дзяржаўнай.

Распрацаваныя Камісіяй прапановы аб заканадаўчым урэгуляванні статусу беларускай, рускай і іншых моў разглядзелі і падтрымалі тры пастаянныя Камісіі Вярхоўнага Савета БССР - заканадаўчых меркаванняў, па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных зносінах і па народнай адукацыі і культуры, а затым гэтыя прапановы ў форме праекта Закона аб мове былі вынесеныя на ўсенароднае абмеркаванне. Бадай, яшчэ ніколі наш народ не браў такога актыўнага ўдзелу ў абмеркаванні праекту якога-небудзь закона, як гэтым разам. І калі раней у часе такіх абмеркаванняў газеты друкавалі матэрыялы, атрыманыя пераважна з мясцовых партыйных арганізацыяў, моцна залежных ад больш высокіх інстанцыяў, дык цяпер уся інфармацыя ішла галоўным чынам непасрэдна ад саміх калектываў, канкрэтных асобаў. Адчувалася, што думкі выказваліся без усялякага знешняга прымусу, што яны выпакутаваныя гадамі, ішлі ад шчырага сэрца. І што характэрна, дык гэта вельмі вялікі клопат і непакой за лёс беларускага слова не толькі прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі, але і тых, сфера дзейнасці якіх была звязаная з матэрыяльнай вытворчасцю. Нельга не адзначыць, што шмат каштоўнага, карыснага для вызначэння сацыяльнага статусу беларускай мовы выказалі таксама шэраговыя працоўныя ды сяляне.

Вельмі паказальна, што на абарону законных правоў беларускай мовы актыўна выступілі студэнты і выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў. Паказальна таму, што яны параўнальна з іншымі катэгорыямі людзей добра ведалі, што чакае народ, калі яго роднае слова знаходзіцца на задворках, па-другое, што яны атрымлівалі адукацыю, пісалі лекцыі, чыталі падручнікі не на беларускай мове, а на рускай мове, якую па элементарнай логіцы ім трэба было б і абараняць. Аднак клопаты аб лёсе беларускай мовы былі для іх вышэй за навучальныя ці прафесійныя інтарэсы. Так студэнты і выкладчыкі БДУ (148 подпісаў) у сваім лісце выказалі цвёрдую ўпэўненасць, "што выратаваць беларускую мову ад забыцця можна толькі пры ажыццяўленні палажэння аб наданні беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы ў Беларускай ССР".

Не засталіся ў баку ад абмеркавання гэтага лёсавызначальнага для беларускага народа пытання і нашыя суродзічы, што па розных прычынах апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны. Хвалявала гэта і афіцэраў-беларусаў. Група іх, што служыла ў Казахстане, так пісала ў Вярхоўны Савет БССР:"Права народа размаўляць на сваёй мове - святое права. І мы сёння з тымі, хто змагаецца за адраджэнне мовы, культуры, нацыі.

Мы звяртаемся да ўсіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета, калі прыйдзе час галасаваць за Закон аб мовах, перш чым падняць руку, падумайце, бо ў вашых руках не толькі лёс мовы, у вашых руках лёс Беларусі".

Пахвальна, што ў падтрымку беларускай мовы выказаліся і многія з тых грамадзян, для каго яна нез'яўлялася роднай, да прыкладу Р.Мантэль: "Я не беларус, але заўсёды з вялікай павагай і пашанай ставіўся да беларускай мовы. На маю думку, кожны, хто жыве ў рэспубліцы, павінен свабодна размаўляць на мове карэннай нацыі, хоць бы дзеля такго, каб лічыць сябе паўнапраўным грамадзянінам гэтай рэспублікі".

А вось меркаванне віцебскага ветэрана вайны і працы, яўрэя Б.Гінзбурга: "Праект закона ... па свайму зместу і нацыянальны і інтэрнацыянальны. Упэўнены, што ён адродзіць парушаныя традыцыі павагі ўсяго насельніцтва Беларусі да беларускай мовы, павагі людзей адзін да аднаго, незалежна ад іх нацыянальнасці".

За час абмеркавання праекта Закона аб мовах у Беларускай ССР, які быў надрукаваны ў газетах рэспублікі ў першай дэкадзе снежня 1989 года ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, на радыё і тэлебачанне і ў газеты прыйшла велізарная колькасць калектыўных і асабістых лістоў, у , у якіх выказана думка звыш 20 тысяч чалавек, з якіх абсалютная большыня (каля 15 тыс.) выступіла за наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы, супраць - 2359, за наданне такога статусу адначасова яшчэ і рускай мове - 2317, а за правядзенне моўнага рэферэндуму - толькі 231 чалавек. Дзякуючы сродкам масавай інфармацыі пазіцыя тых людзей, што станоўча выказаліся адносна праекта Закона аб мовах, стала вядомай мільёнам жыхароў рэспублікі, ад якіх, дарэчы, не паступіла аніякіх пярэчанняў у дачыненні да вызначанага для беларускай мовы высокага і зусім заслужанага статусу. Як бачым, гэта ўжо быў і сапраўдны, хоць афіцыйна і не абвешчаны, усенародны рэферэндум аб мовах у рэспубліцы, у ходзе якога пераважная бальшыня яе жыхароў пагадзілася, што дзяржаўнай мовай у нас павінна быць толькі беларуская.

З усяго вышэйсказанага вынікае, што да вынясення на сесію Вярхоўнага Савета БССР пытання аб мовах дэпутаты вышэйшага заканадаўчага органа мелі вельмі выразнае ўяўленне, як да даннай лёсавызначальнай праблемы ставіцца сам народ. Гэтая акалічнасць, зразумела, вельмі паўплывала на пазіцыю дэпутатаў, калі надышоў час абмеркавання і прыняцця Закона аб мовах у рэспубліцы. Адбылося гэта 26 студзеня 1990 г. Дакладала старшыня Камісіі Ніна Мазай. Ці не ўпершыню ў гісторыі дэпутатам заканадаўчага органа Беларусі давялося пачуць з вуснаў дакладчыка гэтак багата цёплых ды ласкавых словаў пра беларускую мову. Прывяду найбольш адмысловыя вытрымкі з яго:"... мова не толькі сродак зносінаў паміж людзьмі, яна з'яўляецца асновай культуры народа і яе найбольш важкім складнікам. Кожная мова, у тым ліку і наша, яе агульнанародная, літаратурная, жывая мясцовая ды гістарычная разнавіднасці – найкаштоўны скарб, што належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву. Родная мова – гэта сувязь пакаленняў, праз яе чалавек усведамляе ролю свайго народу цяпер і раней, далучаецца да культурнае спадчыны, да сучасных працэсаў духоўнага развіцця".

Прысутныя ў зале цалкам пагаджаліся з гэтымі справядлівымі словамі. Не назіралася адмоўнае рэакцыі сярод дэпутатаў і тады, калі ім было сказана, што "ў такой далікатнай справе, як мова... наўрад ці апраўданы рэферэндум. Яго як зусім ненадзейны сродак вырашэння моўнага пытання адхіліў у сваім судакладзе старшыня пастаяннай Камісіі па народнай адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета БССР Аляксандар Караткевіч, які заявіў, што "... міжнацыянальных пытанні, асабліва ў галіне мовы, ніколі не вырашыць шляхам рэферэндуму. Тут узнікае справядлівая заўвага: як можна пытацца ў народа пра лёс яго мовы – патрэбная ці не патрэбная яна гэтаму народу. Толькі маючы павагу да народу, толькі шляхам пошуку ўзаемааптымальных рашэнняў можна вырашыць моўную праблему". Ад былога высокага партыйнага функцыянера дэпутаты пачулі і наступныя словы:"... беларуская мова і раней вызначалася як дзяржаўная, але ў выніку хібаў у моўнай палітыцы не атрымала належнага вакарыстання ў палітычным, дзяржаўным, навуковым ды культурным жыцці. Асабліва тое сталася відавочным апошнімі дзесяцігоддзямі".

Як і трэба было чакаць, пераважная бальшыня дэпутатаў – асабліва прадстаўнікі інтэлігенцыі, прычым нават і рускамоўныя – выказаліся за наданне беларускае мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы ў БССР. Пагадзіліся з гэтым і шмат якія супрацоўнікі дзяржаўных, партыйных органаў, а таксама кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, прадпрыемстваў ды іншых установаў. Іх выступы ў аднолькавай ступені вызначаў высокі ўзровень навуковасці ды эмацыйнасці, у чым мусім пераканацца з наступных цытатаў: "... праблема беларускай мовы – гэта праблема далейшага лёсу нашага народу" (старшыня Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў Зміцер Арцыменя); "... калі мы прымем закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, гэта будзе пасля заканадаўчага акту аб стварэнні Беларускай ССР, напэўна, другім па значэнні актам у гісторыі нашае рэспублікі" (рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Леанід Кісялеўскі); "не можа быць паўнавартаснаю нацыя без свае культуры, без свае мовы" (міністар адукацыі БССР Міхаіл Дзямчук); "нацыя, што не мае свае дзяржаўнае мовы, – гэта... своеасаблівая амаральнасць" (народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі); "... мова народа, чыё найменне атрымала рэспубліка, павінна мець прыярытэты на яе тэрыторыі" (першы намеснік старшыні выканкама Берасцейскага абласнога Савета народных дэпутатаў Іван Красіцкі); "... страціўшы сваю родную мову, мы губляем сваю нацыю. Таму трэба прыкласці ўсе намаганні да аднаўлення беларускае мовы. І чым хутчэй мы гэта зробім, тым хутчэй беларус - чалавек загучыць з вялікае літары" (дыспетчар калгаса імя Ілліча Бешанковіцкага раёну Віцебскае вобласці Яўгенія Берасцень).

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

НАВІНЫ З ЧЭРЫКАВА

## Мы рады Вашаму прыходу, УСЕВАЛАД ВАСІЛЬЕВІЧ!

Безумоўна, радасці не было мяжы, калі да нас далучыўся даволі паважаны і адукаваны чалавек, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Дарафееў Усевалад Васільевіч. Што можна сказаць пра гэтага чалавека і чаму я, менавіта, ягонае жыццё вырашыў занатаваць у гэтым артыкуле? Ведаеце, па-першае, і лёс ягоны не з лёгкіх, а галоўнае, што ён заўсёды не звяртаў увагі на свае асабістыя цяжкасці і колькі мог працаваў на адраджэнне Бацькаўшчыны. Калі наша суполка сумесна з раённай арганізацыяй БНФ і праваслаўнай царквой праводзілі ў 1994 і 1995 гадах мерапрыемствы, прымеркаваныя да Дня памяці – 2 лістапада, дык Усевалад Васільевіч самым актыўным чынам удзельнічаў у іх. Таксама ён прымаў удзел у паседжаннях нашага гісторыка-краязнаўчага клуба "Спадчына". Гэта было для яго самым любімым заняткам, бо тут ён мог цалкам рэалізаваць свае духоўныя патэнцыялы. Ну, і безумоўна сябры нашай суполкі заўсёды адносіліся да гэтага чалавека з пашанай і любоўю.

А колькі ж Усевалад Васільевіч перачытаў самых цікавых кніг! Ці чыталі такія рэдкія экземпляры супрацоўнікі цэнтральных бібліятэк і кніжных сховішчаў? Ягорны прыход у гарадскую суполку якраз папоўніў нашу духоўную супольнасць. Дома ў ветэрана Вялікай Айчыннай, спадара Дарафеева вялікая асабістая бібліятэка самых рэдкіх кніг, часопісаў, газет, сярод якіх даволі шмат і беларускамоўных выданняў.

Але ж так склалася, што ўсё жыццё Усевалад Васільевіч пражыў адзін і зараз на 77-м годзе жыцця ён толькі з Богам дзеліцца усімі сваімі цяжкасцямі і выпрабаваннямі. А яшчэ са сваімі адданымі сябрамі, якіх у яго колькі хочаш. Цудоўны чалавек. Заўсёды адгукнецца на людское гора, бо сам столькі яго перажыў! І ведаеце, прыемна дзяліцца думкамі, імкненнямі, перажываннямі, і безумоўна, вельмі прыемна падзяліцца з ім творчымі знаходкамі. І для многіх Усевалад Васільевіч самы прыстойны крытык, бо прызвычаіўся з ранняга дзяцінства казаць толькі праўду і жыць без яе проста не можа. Іншыя ж могуць задацца пытаннем: "А што такое праўда?". Так, некаторыя з людзей проста не ведаюць сэнсу такога паняцця, таму і няшчасныя яны людзі.

Першым пытаннем гэтага чалавека пасля прыняцця яго ў шэрагі нашай гарадской суполкі было тое, якім чынам увогуле выжывае Таварыства беларускай мовы. Таму і ахвяраваў адрасу на патрэбы Таварыства, даведаўшыся, што дзяржаўных крыніц фінансавання яно проста не мае. Вось такія справы.

Яшчэ што адметнае ў асобе паважанага ўсімі Усевалада Васільевіча, што ў параўнанні з астатнімі, якія прытрымліваюцца звычайна камуністычных поглядаў, гэты чалавек цалкам аддан дэмакратычным ідэалам. А самае галоўнае, што ён любіць сваю Беларусь, яе народ і мову, напэўна, мацней, чым некаторыя сваіх каханых. Таму мне хачацца ў заканчэнні сказаць, што жыве наша любая Бацькаўшчына, калі жывуць такія цудоўныя людзі, як Дарафееў Усевалад Васільевіч.

З павагай,

*Станіслаў Хахлоў, старшыня Чэрыкаўскай гарадской суполкі ТБМ, старшыня раённага клуба творчай інтэлігенцыі "Натхненне".*

## Калі ў касцеле па-расейску

25 снежня. Надышло доўгачаканае свята католікаў – Каляды. Я вырашыў марозным сонечным ранкам прайсціся па віцебскім вуліцах і праспектах. У горадзе панаваў святочны настрой, але чагосьці не хапала. Нідзе не было чуваць роднай мовы. Якая б улагоджвала слых. А мне так карцела яе пачуць, што я адправіўся ў кафедральны касцёл, дзе павінна была пачацца імша з нагоды народзінаў Ісуса Хрыста. На той час там ужо сабралася шмат вернікаў, якія прыйшлі "павіншаваць" Ісуса. Праз некалькі хвілін пачалася служба. Калі сказаць, што я быў уражаны, гэта значыць нічога не сказаць. У касцёле гучала руская мова з беларускімі словамі ды польскім акцэнтам! Можа гэта сон? – спытаў я сам сябе. Ды не, увесь гэты жах сыходзіў з вуснаў ксяндза, які вёў імшу. Шчыра кажучы, няма слоў! Каб у касцёле ды па-руску! На жаль, мне ніхто не мог растлумачыць тое, што пачулі мае вушы. Цікава, што ніводнага абурэння наконт мовы, якая гучала ў сценах Божай хаты, не было чуваць. А ўсё гэта я да таго хілю, што калі ўжо ў касцёлах гавораць па-расейску, то які лёс чакае мову нашых дзядоў? Ці не згінем мы, як нацыя, страціўшы самае дарагое, слова беларускае?

*Землякоў Ігар.*

## "Двухмоўе" ў нашым жыцці

З лістапада ўвечары я ішла на сустрэчу з нашымі славутымі "Харошкамі". Чакала гэтай сустрэчы, як свята. "Харошкі" ж нарадзіліся на нашай зямлі і імя атрымалі ад назвы вёскі з такой незвычайнай, цёплай назвай.

І вось... Трымаю ў руках праграму канцэрта. Вочы адмаўляюцца зразумець напісанае: праграма пададзена па-руску! Чаму! Калі ў нас і двухмоўе, дык усё роўна менавіта тут беларускае слова гучала б нязмушана і было б своеасаблівым камертонам, аздобай канцэрту.

"ВИТЕБСКАЯ ПОЛЬКА"

"ПАСТУШОК"

"ПЕРЕПЕЛОЧКА"

"БЕЛОРУССКИЕ НАИГРЫШИ"

"ГОМЕЛЬСКАЯ КАДРИЛЬ"

"РУСАЛОЧКА"

"ХОДИТ ПАВА"

"ПАВА"

"МИКИТА"

ФИНАЛ

Перад пачаткам колькі слоў было сказана гледачам адным з кіраўнікоў ансамбля. І таксама па-руску! Мне ж здаецца, што словы, сказаныя па-беларуску, былі б тут вельмі дарэчы, як уверцюра, што ўводзіць гледача ў свет нацыянальнага танца.

Зрабілася прыкра і балюча. Ужо не маглі ўзняць настрой ні Фёдар Балабайка, ні непаўторная музыка цудоўных беларускіх танцаў, ні бездакорнае іх выкананне.

Свята для мяне не атрымалася...

*А.Балошка, мінчанка.*

## Ці "загамоніць" Барысаў?

У пачатку дзевяностых гадоў, у перыяд "другога адраджэння" на Беларусі, у Барысаве было заснавана Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Прайшло дзевяць год, шмат што змянілася ў краіне, у тым ліку карэнна змянілася сітуацыя з мовай, якая ізноў апынулася ў заняпадзе. На працягу свайго існавання суполка актыўна дзейнічала **(актыўна ў маштабах сваіх, раённых, бо параўнаваць яе дзейнасць з дзейнасцю ТБМ у сталіцы было б не зусім карэктна)** наладжваліся вечарыны-сустрэчы з аматарамі беларускай мовы, паэтамі і пісьменнікамі Барысаўшчыны, прагляды фільмаў. ТБМ удзельнічала ў адукацыі беларускіх школ у горадзе. Некалькі год таму арганізацыя атрымала дазвол на ўстаноўку помніка ў вёсцы Падбярэззе, на месцы бітвы паўстанцаў 1863 года. Але, як заўсёды здараецца з ініцыятывамі, што не фінансуюцца знешне, помнік з-за адсутнасці матэрыяльных сродкаў так і не быў пастаўлены. Па аналагічных прычынах, як мяркуюць сябры ТБМ Барысава, ТБМ не мае магчымасці праводзіць разгорнутую дзейнасць зараз. А шкада, бо работы вельмі шмат – статус беларускамоўнай у Барысаве на гэты час захавала толькі адна школа – гімназія № 2.

Адна з асноўных спраў, якімі займаецца ТБМ зараз, - выданне газеты "Гоман Барысаўшчыны", якое пачалося ў жніўні 1996 года. У газеце асвятляецца мінулае горада, узнімаюцца праблемы мовы, культуры, экалогіі.

Акрамя таго, "ГБ" – гэта, мабыць, адзінае выданне ў Барысаве, дзе могуць змяшчаць свае вершы маладыя беларускамоўныя паэты. Газета выходзіць на нашай мове і мае свайго прыхільніка. Супрацоўнікі газеты пастаянна ладзяць вандроўкі па Барысаўшчыне, Беларусі і замежжы, запрашаюць жадаючых далучацца. На жаль, выданне не супрацоўнічае і не мае трывалых сувязей з газетай "Наша слова", што асабіста мне здаецца крыху незразумелым.

Па словах галоўнага рэдактара "ГБ" Міхаіла Мацельскага, зараз газета будзе выходзіць рэгулярна – раз у месяц. Так што раю жыхарам Барысава шукаць выданне ў кіёсках.

*Панаскіна Таццяна. Студэнтка.*

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

**Наваполацкага Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны**

**Старшыні Наваполацкага гарвыканкама Камарову А.У.,**

**Старшыні Наваполацкага гарсавета Ніякоўскаму А.М.**

Мы, сябры ТБМ, занепакоеныя тым, што на працягу апошніх двух гадоў у Наваполацку вядзецца мэтанакіраваная палітыка на вынішчэнне беларускамоўнага асяроддзя. Наколькі нам вядома, беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь. Чаму ў такім выпадку новыя шыльды з назвамі вуліц выкананы толькі па расейску? Чаму шыльды з надпісамі на гарадскіх крамах, гарадскіх і прыгарадных аўтобусах скрозь замяняюцца на рускамоўныя? Адказы на нашыя звароты ў выканаўчыя органы атрымліваем зноў-жа на мове суседняй краіны, хаця запыт быў зроблены па беларуску. Новыя падпісныя квіткі на перыядычныя выданні распаўсюджваюцца па гарадскіх установах таксама па расейску.

Мы не будзем сёння выказваць Вам папрок у тым, што выкладанне ў так званых і на вялікі жаль адзінкавых у горадзе беларускамоўных класах вядзецца часткова па расейску, не будзем сёння ўзгадваць і прозвішчы асобных чыноўнікаў, якія месяцца пад дахам Вашага будынку і ад якіх сябры ТБМ чулі і чуюць абразы за тое, што яны гавораць на сваёй роднай мове.

Пройдзе пэўны час і Радзіма будзе ведаць сваіх "герояў"!!!

Вам мы нагадваем, што ўсе мы жывем у незалежнай краіне РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ і мова беларуская – ёсць дзяржаўная мова гэтай краіны!

Так што, калі ласка, забяспечце на афіцыйным гарадскім узроўне ёй належны роўны статус!

9 лістапада 1999 г.

*Старшыня Наваполацкай Рады ТБМ*

*Алесь Рымша.*

*(Пад лістом 32 подпісы.)*

## Чаму беларусы не гавораць па-беларуску?

А чаму ж мы павінны гаварыць па-беларуску? Для гэтай з'явы, як і для кожнай іншай, павінны быць нейкія прычыны, якія б абумоўлівалі яе існаванне. Мы гаварылі б па-беларуску, калі б адчувалі, што гаварыць на сваёй роднай мове зручней, чым на рускай. А для гэтага трэба зрабіць так, каб па-беларуску размаўлялі тыя, хто выклікае павагу ўсяго народа, тыя, з каго б мы хацелі браць прыклад, каб беларуская мова загучала ва ўстановах.

Увогуле, я лічу, што пытанне "Чаму беларусы не гавораць па-беларуску?" пастаўлена не вельмі правільна. Калі паглядзець на гэтую праблему шырэй, то можна ўбачыць, што беларусы не размаўляюць ні на польскай, ні на украінскай мовах, а ўсе скрозь гавораць па-руску. Таму больш правільным было б пытанне "Чаму беларусы гавораць па-руску?"

Прычын гэтаму шмат. Галоўнымі з іх я лічу нізкі прэстыж нашай мовы, а таксама гістарычную і дэмаграфічную прычыны.

Нізкі прэстыж беларускай і зручнасць рускай моў звязаны з адсутнасцю больш-менш эфектыўнай прапаганды нашай мовы. Але прапаганда не павінна заключацца толькі ва ўсхваленні беларускай мовы і закліках зберагчы нашу спадчыну. Беларусы гавораць па-руску таму, што на гэтай мове размаўляе наш прэзідэнт, большая частка ўраду. Таксама большасць тэлеканалаў транслююць на рускай мове, на ёй жа друкуецца большасць газет на Беларусі. (Чаму ж мы павінны размаўляць па-беларуску, калі на гэтай мове ў нас адзін канал тэлебачання, а на лацвійска-рускай – два. Праўда, яны транслююцца пераважна на поўнач Віцебскай вобласці). Беларусы адчуваюць моцны ўплыў рускай мовы і свядома ці не падпарадкоўваюцца яму.

Што датычыцца гістарычнай прычыны, то нагадаю, што ўсё жыццё апошніх трох пакаленняў беларусаў прыйшлося на перыяд русіфікацыі, таму руская мова больш звычная для нас.

Апошняя, дэмаграфічная прычыны абумоўліваецца тым, што адпаведна статыстыцы, беларусамі з'яўляюцца 82% жыхароў нашай рэспублікі. Астатнія ж – эмігранты, пераважна з краін СНД. Вядома, што для іх руская мова з'яўляецца "linqna franca", найбольш зручным сродкам маўлення, бо яе ведаюць усе. Натуральна, што яны не хочуць вывучаць ніякай новай мовы, ні, тым больш, размаўляць на ёй.

Вось чаму мы размаўляем па-руску.

А што ж зрабіць, каб мы загаварылі на роднай мове? Я лічу, што найбольш радыкальнай мерай будзе адмена рускай мовы як дзяржаўнай. Канешне, гэта мера будзе непапулярная, але нам трэба зрабіць выбар паміж роднай мовай і больш зручнай, але чужой.

*Зміцер Думанскі, студэнт 1 курса.*

ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР АДЗІНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

# АБ ПРАЕКЦЕ ЗАКОНА БЕЛАРУСКАЙ ССР "АБ МОВАХ У БЕЛАРУСКАЙ ССР"

**Даклад намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР дэпутата Н.М. Мазай 26 студзеня 1990 года**

Паважаныя таварышы дэпутаты!

Мне даручана даложыць вам пра асноўныя палажэнні праекта Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", якія выпрацавала камісія па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляван-ні статусу беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва нашай рэспублікі. Камісія была створана пастановай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 29 ліпеня 1989 года.

Цяперашняя сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі без перабольшання мае асаблівае значэнне. І таму, што на ёй разглядаецца неардынарнае пытанне, і таму, што яна праходзіць у абстаноўцы, калі ў краіне хутка нарастаюць працэсы эканамічнай перабудовы, востра праходзіць рэформа палітычнай сістэмы, сацыяльных адносін, узрастае заклапочанасць грамадскасці аб тэмпах, метадах і выніках перабудовы ў цэлым.

Зараз ясней відаць, што праблемы, якія стаяць перад сацыялістычным грамадствам, патрабуюць часам нетрадыцыйных, часцей за ўсё зусім новых падыходаў у іх рашэнні.

Сярод гэтай групы праблем – складанейшы комплекс міжнацыянальных адносін, якія закранаюць свядомасць, пачуцці мільёнаў савецкіх людзей ва ўсіх кутках нашай шматнацыянальнай краіны.

Гэта мы адчуваем вельмі востра сёння, калі чытаем і слухаем паведамленні аб трагічнай, цяжкай сітуацыі ў адносінах паміж народамі Арменіі і Азербайджана, аб нацыянальных канфліктах, якія, на жаль, мелі і маюць месца ў другіх рэгіёнах нашай краіны.

Натуральна, што народы хвалююць пытанні дзяржаўнага і эканамічнага суверэнітэту, захавання і развіцця нацыянальных культур, гістарычнай спадчыны, сваёй роднай мовы.

Своечасовае вырашэнне гэтых праблем, стварэнне такіх умоў, каб кожны народ, які жыве ў нашай краіне, меў магчымасць разгарнуць свой інтэлектуальны і культурны патэнцыял, неабходны для гарманізацыі міжнацыянальных адносін. Толькі так мы можам зберагчы паміж людзьмі, што вякамі жывуць на нашай зямлі, у нашым Саюзе, пачуццё дружбы, узаемаразумення і павагі адзін да аднаго.

Перш за ўсё хацелася б звярнуцца да моўнага пытання, якое патрабуе вельмі клапатлівага і ўдумлівага падыходу, асабіста ў шматнацыянальнай дзяржаве.

Мова кожнага народа, на якой ён думае, піша, гаворыць, – самая вялікая яго каштоўнасць.

І больш людзей усведамляе, што мова не толькі сродак зносін паміж людзьмі, яна з'яўляецца асновай культуры народа і яе важнейшай састаўной часткай. Кожная мова, у тым ліку і наша, яе агульнанародная, літаратурная, жывая мясцвая і гістарычная разнавіднасці – неацэнены скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву.

Родная мова – гэта повязь пакаленняў, праз яе чалавек усведамляе ролю свайго народа цяпер і раней, далучаецца да культурнай спадчыны, да сучасных працэсаў духоўнага развіцця.

У ёй адлюстраваны народы побыт і традыцыі, тое, што называецца душой народа.

Кожны народ мае сваё адметнае, непаўторнае, чым ганарыцца, што зберагае, без чаго не ўяўляе сябе і сваёй зямлі. У кожнага народа ёсць свае Белавежская пушча і Нарач, Свіцязь і Палессе, Полацк і Заслаўе, Скарына і Купала, ёсць родная мова.

"Пазбаўце чалавека магчымасці гаварыць і пісаць на роднай мове, ведаць гістарычны шлях, эпас свайго народа, - падкрэсліваў М. С. Гарбачоў, - і ён, якіх бы поспехаў ні дасягнуў у матэрыяльных адносінах, ужо бязродны, а значыць, і бездухоўны".

Сёння ў рэспубліцы склалася такая сітуацыя, калі практычна дзейнічаюць дзве мовы. На беларускай і рускай мовах вядзецца навучанне і выхаванне, людзі карыстаюцца імі ў адносінах паміж сабой, выдаецца грамадска-палітычная, навуковая, мастацкая літаратура, вядуцца перадачы радыё і тэлебачання.

Практыцы розных бакоў (лінгвістычнаму, сацыяльнаму), двухмоўя ў рэспубліцы, праблемам яго функцыяніравання і развіцця даволі шмат увагі ўдзяляюць даследчыкі, апошнім часам пытанні беларуска-рускага двухмоўя шырока абмяркоўваліся на X пленуме ЦК КПБ, на сходах працоўных калектываў, пры правядзенні "круглых сталоў" як навукоўцаў, так і грамадскасці. Пры гэтым адзначаліся як станоўчыя вынікі гэтага працэсу, так і заклапочанасць тым, што на працягу апошніх дзесяцігоддзяў стала парушацца, калі можна так сказаць, сіметрычнасць двухмоўя.

У зваротах да кіруючых органаў, у друк, сярод творчай інтэлігенцыі, студэнцтва, вучоных, настаўнікаў і іншых прадстаўнікоў грамадскасці ўжо даўно выказвалася занепакоенасць тым станам, у якім апынулася беларуская мова.

Паступовае звужэнне сфер прымянення беларус-кай мовы ў практыцы прывяло да таго, што сёння роля беларускай мовы ў гаспадарчым, культурным, грамадска-палітычным жыцці рэспублікі зведзена да мінімуму, а часам зусім ігнаруецца ў зносінах. Гэта фактычна парушае грамадскія функцыі беларускай мовы, пры абвяшчэнні роўнасці беларускай і рускай моў, адмоўна адбіваецца на распаўсюджанні нацыянальнай мастацкай літаратуры, вядзе да страт у шырокіх мас насельніцтва пачуцця каштоўнасці нацыянальнай культурнай спадчыны, дэфармацый у нацыянальнай самасвядомасці, якія, у прыватнасці, знаходзяць сваё праяўленне ў нігілістычных адносінах пэўнай часткі насельніцтва да беларускай мовы. Такое становішча не з'яўляецца нормай ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Абмяркоўваючы пытанні дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да мовы, мы павінны таксама памятаць і зыходзіць з таго, што жывём у шматнацыянальнай краі-не, што ў нашай рэспубліцы таксама на працягу стагоддзяў побач з беларусамі жывуць прадстаўнікі іншых народаў. Па даных апошняга перапісу беларусы складаюць 77,9 працэнта насельніцтва рэспублікі, рускія – 13,2 працэнта, украінцы – 2,9 працэнта, палякі – 4,1 працэнта, яўрэі – 1,1 працэнта, літоўцы – 0,07 працэнта.

Маюцца тэрыторыі, дзе кампактна пражываюць некаторыя з іх.

Трэба адзначыць, што партыйныя і дзяржаўныя органы рэспублікі зрабілі грунтоўны аналіз, прынялі шэраг першапачатковых мер, якія пачалі ўжо працаваць на паляпшэнне моўнай сітуацыі.

Так у верасні 1988 года Бюро ЦК КПБ зацвердзіла "Асноўныя мерапрыемствы па далейшаму развіццю народнай адукацыі ў Беларускай ССР", дзе моўныя пытанні выдзелены асобным раздзелам. Пытанні, звязаныя з удасканаленнем вывучэння беларускай мовы, разглядаліся ў 1988 годзе ў Савеце Міністраў БССР, на пасяджэнні ідэалагічнай камісіі ЦК КПБ, на калегіях Міністэрства народнай адукацыі БССР, упраўленняў народнай адукацыі аблвыканкомаў.

Многія партыйныя камітэты (Мінскі гарком КПБ, Віцебскі абком КПБ, Навагрудскі райком партыі), некаторыя мясцовыя Саветы народных дэпутатаў распрацавалі і прынялі грунтоўныя мерапрыемствы па пашырэнню сферы функцыяніравання беларускай мовы, далейшаму яе развіццю. Значнае месца пытанням моўнай палітыкі было адведзена на рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі "Народ. Культура. Перабудова". Гэтыя пытанні знайшлі шырокае адлюстраванне і ў платформе Кампартыі Беларусі да выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і мясцовых Саветаў рэспублікі.

Усё вышэйсказанае і абумовіла неабходнасць заканадаўча вызначыць статус беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі.

Камісія па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статусу беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі, створаная на сесіі Вярхоўнага Савета, больш чатырох месяцаў працавала над праектам Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", які сёння прапануе ўвазе дэпутатаў.

Актыўны ўдзел у рабоце камісіі па распрацоўцы праекта закона прынялі: старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы Гілевіч Ніл Сямёнавіч, які ўзначаліў рабочую групу, Бірыла Мікалай Васільевіч – акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук БССР, Дзямчук Міхаіл Іванавіч – народны дэпутат СССР, міністр народнай адукацыі БССР, Капанік Генадзь Канстанцінавіч – рабочы Мінскага вытворчага аб'яднання імя Леніна, Кенік Іван Альбінавіч – дэпутат Вяр-хоўнага Савета БССР, старшыня Мазырскага гарвыканкома, Краўчанка Пётр Кузьміч – сакратар Мінскага гаркома Кампартыі Беларусі, Маханько Аляксандр Міхайлавіч – старшыня калгаса "Перамога" Берастаўіцкага раёна Гродзенскай вобласці, Падлужны Аляксандр Іосіфавіч – член-карэспандэнт Акадэ-міі навук БССР, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа, Масько Галіна Ігнатаўна – народны дэпутат СССР, намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 3 г. Слоніма, Рагойша Вячаслаў Пятровіч – дацэнт кафедры сацыялістычнай культуры Мінскай вышэйшай партыйнай школы, Садоўскі Пётр Вікеньцевіч – дацэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага, Сачанка Барыс Іванавіч – пісьменнік, Смірноў Юрый Пятровіч – намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Яўневіч Міхал Станіслававіч – прафесар, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага, Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч – доктар юрыдычных навук, загадчык кафедры тэорыі гісторыі дзяржавы і права Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У.І.Леніна, усе члены камісіі.

Працуючы над праектам закона, яго аўтары шырока выкарыстоўвалі ідэі ленінскай канцэпцыі функцыяніравання моў у шматнацыянальнай дзяржаве, рашэнні XXУII з'езда КПСС, XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, пастановы З'ездаў народных дэпутатаў Саюза ССР.

Улічвалася таксама, што ў краіне ідзе агульны працэс заканадаўчага ўрэгулявання моўных пытанняў, што ў многіх рэспубліках ужо прыняты законы, якія вызначылі статус як нацыянальнай мовы, так і іншых моў, якімі карыстаюцца жыхары адпаведных рэспублік. Таму пры распрацоўцы праекта закона камісія ўважліва вывучыла заканадаўчыя акты аб мовах, прынятыя ў іншых саюзных рэспубліках, міжнародную заканадаўчую практыку.

Праект і кожнае яго палажэнне абмяркоўваліся ўсебакова і глыбока. Камісія з ўсёй адказнасцю ўсведамляе, што мова, як было ўжо сказана вышэй, не толькі сродак зносін паміж людзей, што моўныя пытанні адыгрываюць вядучую ролю як у нармалізацыі, так і ва ўскладненні міжнацыя-альных адносін.

Мы ўважліва аднесліся да дасланых альтэрнатыўных праектаў, складзеных у Акадэміі навук БССР. Белдзяржуніверсітэце, грамадскіх арганізацыях рэспублікі.

Як вынік, рабочая група выпрацавала праект Закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Пасля абмеркавання ў камісіі ён быў вынесены на разгляд пастаянных камісій Вярхоўнага Савета БССР: Камісіі заканадаўчых меркаванняў, Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах і Камісіі па народнай адукацыі і культуры. Гэты праект камісіямі быў абмеркаваны, падтрыманы і вынесены на народнае абмеркаванне.

Усебакова разглядаючы праблему, улічваючы практыку, шырокае кола выказаных меркаванняў, камісія палічыла неабходным вызначыць у праекце Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" статус рускай мовы, як мовы міжнацыянальных зносін. Праект прадугледжвае на дзяржаўным узроўні зябеспячэнне права кожнага грамадзяніна рэспублікі свабодна карыстацца рускай мовай ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, права на атрыманне адукацыі на гэтай мове.

Такім чынам, на ўзроўні канстытуцыйнага законапалажэння вызначаецца становішча рускай мовы, якая сёння практычна з'яўляецца мовай мсіжнацыя-нальных зносін, выконвае важныя функцыі ў кіраванні краінай, у жыцці рэспублікі.

Вызначаючы статус беларускай мовы, мовы народа, які даў імя рэспубліцы, на яго этнічнай тэрыторыі, камісія прапануе канстытуцыйна прызнаць яе дзяржаўнай мовай Беларускай ССР.

Такія адносіны да дзяржаўнасці беларускай мовы выказаны ў пастанове XУI пленума ЦК КПБ "Аб платформе Кампартыі Беларусі да выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і мясцовых Саветаў рэспублікі", прынятай 27 снежня 1989 г.

Выносячы такую прапанову, камісія спадзяваецца, што яна будзе добразычліва і з разуменнем прынята людзьмі ўсіх нацыянальнасцяў, што жывуць у рэспубліцы.

Мы разлічваем, што кожны з нас усведамляе тое, што менавіта на гэтай мове сабрана багатая культурна-гістарычная, навуковая спадчына нашага народа, дасягнула сусветнага ўзроўню беларуская савецкая літаратура.

Як вядома, у першыя гады пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі разам з беларускай дзяржаўнасцю адраджала сваё значэнне і беларуская мова. Менавіта яна вызначалася ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы як мова, пераважная для адносін паміж дзяржаўнымі, прафесійнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі.

На наш погляд, апіраючыся на гэты статус, беларуская мова атрымлівае новыя магчымасці для свайго далейшага развіцця, больш шырокага прымянення ў дзяржаўных органах, працы грамадскіх арганізацый, установах навукі, культуры, адукацыі, у галіне абслугоўвання, стварэння ўмоў для авалодання ёю ўсімі жадаючымі.

Наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай дазволіць не толькі ўмацаваць сацыяльную базу яе функцыяніравання, але і дасць магчымасць прадстаўнікам усіх нацыянальнасцяў лепш пазнаць духоўныя каштоўнасці беларускага народа, узмацніць увагу шырокай грамадскасці да нацыянальнай культуры, гісторыі, літаратуры, мастацтва і іншых нацыянальных здабыткаў беларускага народа.

Разам з тым лічым неабходным падкрэсліць, што дзяржаўны статус беларус-кай мовы ні ў якой меры не прыніжае рускай мовы і мовы іншых нацыянальнасцяў, не пярэчыць прынцыпам роўнасці нацый і раўнапраўя моў, прынцыпам ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Тут трэба прыгадаць наступнае палажэнне даклада М.С.Гарбачова на вераснёўскім Пленуме ЦК КПСС 1989 года "Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах": "Перш за ўсё мы зыходзім з таго, што карэннае насельніцтва ўсіх рэспублік, безумоўна, мае поўнае права зацвердзіць сваю мову ў якасці дзяржаўнай, інакш кажучы, стварыць прававыя ўмовы для яе захавання і развіцця. Гэта не толькі юрыдычнае пытанне, гэта пытанне палітычнае, паколькі размова ідзе аб самаадчуванні нашых народаў іх зразумелым імкненні захаваць сваю нацыянальную самабытнасць".

Руская мова будзе належным чынам працягваць ажыццяўленне свайго высокага прызначэння як мова міжнацыянальных зносін, садзейнічаць развіццю прадукцыйных, інтэлектуальных сіл рэспублікі ў межах савецкай федэрацыі.

Артыкул 24 прадугледжвае абавязковае вывучэнне беларускай і рускай моў ва ўсіх агульнаадукацыйных школах рэспублікі.

Згодна з праектам закон рэспубліка бярэ на сябе абавязак праяўляць належныя клопаты і аб іншых нацыянальных мовах на сваёй тэрыторыі. І дзе кампактна пражываюць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, ім гарантуецца права ствараць дзіцячыя ўстановы на роднай мове, адкрываць школы або класы, рыхтаваць выхавацеляў і настаўнікаў роднай мовы для гэтых установ. Гарантуецца права карыстацца сваёй мовай у зносінах з афіцыйнымі арганізацыямі, у судзе, пры атрыманні юрыдычных кансультацый і гэтак далей.

За час абмеркавання праект закона ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, на радыё, тэлебачанне, у рэдакцыі рэспубліканскіх, абласных, раённых і шматтыражных газет паступіла шмат калектыўных і асабістых лістоў, у якіх выказаны свае прапановы і заўвагі літаральна па кожнаму артыкулу законапраекта больш за 20 тысяч чалавек.

Трэба сказаць, што закон праект увогуле ўспрыняты добразычліва і з вялікай цікавасцю як у рэспубліцы, так за яе межамі. Пераважна большасць тых, хто прыняў удзел у абмеркаванні і даслаў свае прапановы, выказалася за прыняцце такога закона.

Вось што пішуць, напрыклад, студэнты і выкладчыкі Белдзяржуніверсітэта імя У.І.Леніна (148 подпісаў):

"Мы ўспрымаем і разглядаем гэты праект як такі мяркуем заканадаўчы акт, які ўдумліва распрацаваны з улікам той рэальнай моўнай сітуацыі, тых акалічнасцей, пры якіх мова карэннага насельніцтва рэспублікі аказалася ў глыбокім заняпадзе. Таму для кожнага чалавека з'яўляецца відавочным, што выратаваць беларускую мову ад забыцця можна толькі пры ажыццяўленні палажэння аб наданні беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы ў Беларускай ССР, такое палажэнне ні ў якім разе не з'явіцца дыскрымінацыйным да іншых моў таму што праект закона гарантуе свабоднае карыстанне рускай мовай, як мовай міжнацыянальных зносін народаў СССР, свабоднае развіццё і ўжыванне ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларусі".

# Давайце спяваць па-беларуску

## РОДНЫ КРАЙ

**Музыка Міколы Яцкова** **Словы Аляксандра Шлеянкова**




Край мой сінявокі, родная старонка!
Збажына ў полі, рэчкі і лясы.
Колас і Купала славяць цябе звонка,
Не забыць ніколі мне тваёй красы.

Прыпеў:
Беларусь, Беларусь,
Край мой сінявокі,
Вечна ў сэрцы спадчына твая.
Беларусь, Беларусь,
Свет любві высокай
Зорка непагасная мая.

А кагосці вабяць за мяжой краіны,
Дзе Дунай і Вісла хвалі ўдаль нясуць.
Застаешся ў сэрцы толькі ты адзіны,
І спяваюць песні нам Дняпро і Друць.

Прыпеў:

Пра цябе заусёды сны мае і мары,
Ты была спрадвеку вольная зямля.
Хай маю Радзіму абмінаюць хмары,
Мне без Беларусі не пражыць і дня.

Прыпеў:

# *Жывая кніга прыроды*

**Для педагогаў дашкольных устаноў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

Мароз уяўляюць у вобразе велізарнага дзеда з лёду (Ледзяны дзед) у снегавой сярмязе, валасы і доўгую бараду якога пакрывае густы іней.

Начное стуканне і трэск у кутках у час вялікіх маразоў прыпісваюць Ледзяному дзеду, які мае звычай садзіцца на хаце. Менавіта таму, каб задобрыць гэтага страшнага дзеда запрашаюць яго на калядную вячэру...

З беларускай міфалогіі

### ПТУШКІ І МІХАСЬКА

На дварэ суровы студзень
Снег мяце.
Птушкі ранкам вас разбудзяць
Ў цемнаце.
- Мы не маем сваіх хатак,
Ціў-ціў-ціў.
Мы шукаем тут зярнятак,
Ціў-ціў-ціў.
Дык ляціце да Міхаські
На балкон,
Канапеляк і зярнятак
Дасць ён вам.

Ларыса Геніюш

### ЗІМА

Зіма сярдзітая з марозам,
З завеяй белаю прыйшла,
Дыван прыгожанькі, сняжысты
Да нас з паўночы прынясла.
З-за хмарак выпаўз ціха месяц,
Збірае зоркі ў карагод,
І заблішчэлі, як брыльянты,
На дрэвах іней, снег і лёд.
Ці то ад іх, ці то ад зорак,
Ды відна стала ўсё, як удзень,
А шэранькія хаткі вёскі
На белым снезе, нібы цень.

Ларыса Генюш

### ДЛЯ НАШЫХ ПРЫЯЦЕЛЯЎ

Штораз цішэй і пусцей робіцца ў лясах, зараслях і агародах. Частка птушак адляцела ўжо ў вырай, а тыя, што зімуюць у нас, не пяюць ужо так весела, як вясной і летам. Наступаюць зімовыя халады, і сціскаюцца маленькія птушыныя сэрцы і б'юцца ў трывозе: што будзе? Што будзе, як снег укрые зямлю, схавае ўсе зярняткі ды ягадкі? Чакае голад, страшны голад, які часта канчаецца смерцю. Холад таксама вельмі птушкам дакучае, а вялікія маразы губяць іх без ліку. Але ад холаду можна знайсці ратунак, хаваючыся ў дуплы дрэў, у пустыя гнёзды, у густыя галіны елак. Сядзяць там птушкі, наставіўшы пёркі, падобныя да маленечкіх пуховых клубочкаў. А як ратавацца ад голаду? Дзе шукаць сабе спажывы, асабліва ў снежную зіму, калі тоўсты і шчыльны дыван ляжа на зямлю і нават пакрые галіны дрэў.

Тады вось маленькім бязрадным птушкам павінны памагчы людзі, павінны памагчы, каб аддзячыць тую велізарную працу, якую птушкі выконваюць на працягу вясны і лета, ачышчаючы нашы сады ад шкодных казюлек, вусеняў і мошак.

Хочучы памагчы птушкам пражыць цяжкую халодную зіму, трэба загадзя прыгатаваць для іх адпаведныя запасы. Усе тыя птушкі, што зімуюць у нас, кормяцца пераважна, асабліва зімой, рознымі ягадамі і зярнятамі.

Збіранне і прыгатаўленне запасаў каштуе крыху часу і працы, але затое якая радасць нас чакае, калі ў нашым садку, дзе паставім ці павесім кармушкі, збярэцца цэлая грамада галодных птушак і, смачна заядаючы, зачырыкае нам мілае "дзякуй".

Зоська Верас.

### СІНІЦЫ –ЧАРАЎНІЦЫ

Наш Дзяніска сёння
Хворы,
Не ў настроі,
Не ў гуморы,
Апетыту ён не мае,
Не смяецца,
Не спявае.
У акно
Глядзіць Дзяніска,
За акном
На дрэве блізка
На заснежанай галінцы
Селі
Жвавыя сініцы,
Потым птушкі-весялушкі
Пераселі
Да кармушкі,
Што зрабіў Дзяніска з татам,
Аж святлейшай стала хата.
Папрасіў Дзяніска:
- Мама,
Ecцi я
Хачу таксама.

*Пятро Сушко.*

Калядачкі далёка
Кілбасачкі высока.
Калядачкі прыблізіліся –
Кілбасачкі панізіліся.
Я дзевачка маленька
Ў мяне хустачка рабенька,
Башмачкі казловенькія,
Будзьце зсвятамздаровенькія.

*З дзіцячага фальклору*

Казачна выглядае зімовы лес. Ён, як і ўсё навокал, прыбраўся ў бялюткі іскрысты ўбор. Цішыня... Здаецца ўсё заміpae. А на самой справе жыццё прыроды ні на хвілінку не спыняецца. Шмат можа расказаць пра яго "снежная кніга". Для тых, хто ўмее яе чытаць, адкрыюцца таямніцы лесу.

Прыглядзьцеся... Бачыце, снег усеяны мноствам розных знакаў. Гэта рапспісаліся ў "снежнай кнізе" жыхары лесу. Хто яны?

Міхал у лесе, як бы дома:
Дзе не ступала яго ножка!
Якіх куточкаў тут не знае!
Міхал ідзе, сляды чытае!
Вось тут танюткі ланцужок
Лёг так прыгожа на сняжок –
То пара кропак, то дзве рыскі,
Відаць, што мышкіны распіскі.
Другі малюнак, след – трайчаткі
Па лесе кідаюць зайчаткі;
А ліс-хітрэц, выжыга чуткі,
Па снезе цягне шнур раўнюткі:
Слядок з слядочкам супадае,
Бы лапка тут адна ступае.

***Урывак з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля"***

### ПІСЬМО НА СНЕЗЕ

На снезе дзіўныя слядкі,
Як быццам літары, значкі.
Дзядулю клічу я на двор:
- Глядзі, які на снезе ўзор!
- Пісьмо тут, - мне гаворыць дзед. –
Я прачытаў яго як след.
Табе, Міколка, пішуць птушкі,
каб ты зрабіў для іх кармушкі.

***Ніна Галіноўская***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеный інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 01. 2000 г.
Наклад 3300 асобнікаў. Замова № 4
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 руб., 3 мес.- 300 руб.
***Кошт у розніцу:*** 25 руб.